# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 41 (1233) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 14 КАСТРЫЧНІКА 1979 г. ЦАНА 1 зл.



*А зусім нядаўна было ля гэтага возера гучна і шумліва...* *Фота С. Панкоўскага.*

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## Вейкі

І праўда: цяпер яны развеяны, раскіданы аброслымі вішнямі ды бэзам мажнымі хутарамі ў якіх 10-12 кіламетрах на паўднёвы ўсход ад Гарадка. Сярод тутэйшых 76 гаспадароў усяго толькі каля дзесяці „сядзяць“ на тым месцы, дзе не болей пяцідзесяці год таму назад душылася заціснутая шнурамі-палоскамі цераспалосіцы вёска-вуліцоўка. Але перацягваючы на новыя месцы свае нізенькія ды вузенькія халупіны, хлеўчыкі ды клунькі, ці ведаў хто-небудзь нават з такіх старых вейкаўскіх родаў, як: Азябла, Вайцяшук, Варона, Гайдучэня, Грыка, Казёл, Касацкі, Нос, Русак, Салавей, Хрэн, Ціванюк, што на самай справе вяртаюцца яны туды, дзе рассыпанымі па ўсяму наваколлю сялібамі жылі іх продкі яшчэ ў XVI стагоддзі. Гэта ж толькі „Устава на валокі“, выдадзеная вялікім князем літоўскім і каралём польскім Зыгмунтам Аўгустам у 1557 годзе, прымусіла іх „сцягнуцца“ ў цесную вёсачку паабапал старадаўняга гасцінца, а іх палі былі зведзены землямерамі ў тры палеткі ды падзелены на валокі-ўчасткі. Ці ў тыя далёкія часы назвалі вейкаўцы свае палеткі: Барэляў Гай, Лаза, Луг, Кулішкі, Кут, бадай, ніхто не выясніць, Затое пра гасцінец вядома напэўна, што ён быў адгалінаваннем Вялікага шляху. які ішоў з Вялікага княства Літоўскага ў Каралеўства Польскае праз Гродна, Крынкі, Гарадок, Ялоўку, Нарву, Бельск. Да таго часу, пакуль у XVI стагоддзі не быў пракладзены новы каралеўскі шлях з Гродна цераз Саколку, Кнышын, Тыкоцін, Бранск і далей у кірунку Варшавы, датуль іменна па сённяшнім вейкаўскім гасцінцы імчаліся вярхом на ўзмыленых стаенніках пасланцы, трэсліся па насцілах з бярвення каралеўскія павозкі, ішлі многатысячныя вайсковыя атрады, валакліся даўжэзныя купецкія абозы. Але і потым дарога гэтая, хоць ужо мела мясцовы характар, была рухлівая, бо злучала даволі бойкія гаспадарчыя асяродкі: Васількаў, Супрасль, Беласток, Крынкі, Гарадок, Ялоўку, Свіслач, Мсцібава, Ваўкавыск і інш.

Вейкі былі „гаспадарскай“ уласнасцю, гэта значыць належалі да вялікага князя літоўскага. Калі ў 1545 годзе па просьбе каралевы Боны Зыгмунт Аўгуст прызнае Ялоўцы магдэбургскае права, відаць, ужо тады Вейкі належаць да „воласці“ ялоўскай. З дакументаў вядома, што яны ўваходзілі ў 1623 годзе ў склад тадышняга староства ялоўскага. Вось чаму вейкаўскі сенакос знаходзіцца не на суседняй абшырнай даліне ракі Супраслі, бо яна належала з канца XV стагоддзя магнатам Хадкевічам, але аж на левым беразе ракі Нарвы, паміж Будамі і Боўтрыкамі. гэта значыць: на абшары былога „гаспадарскага“ ялоўскага староства. Ужо ў наступным XVII стагоддзі пра староства ялоўскае вядома, што яно належыць да прыватных уладальнікаў, а з XIX стагоддзя даходзяць паданні, што Вейкі былі паншчыннай вёскай і „хадзілі рабіць да двара ў Мастаўлянах“. Так! Да таго самага двара, у якім нарадзіўся беларускі нацыянальны герой Кастусь Каліноўскі.

На жаль, з часоў паўстання 1863-4 гадоў амаль ніякіх слядоў тут не захавалася. Толькі ў сям'і Казлоў перадаецца з пакалення ў пакаленне апавяданне бабулькі Альжбеты пра спатканне з паўстанцамі. Была яна тады яшчэ дзеўкаю, разам з іншымі дзяўчатамі і хлопцамі са свайго сяла пайшла на „фэст“ у царкву ні то ў Крынкі, ні то ў Саколку. Дарога была далёкая, вейкаўская моладзь выбралася з „начавой“. Было лета, і ноч яна рашыла „скаратаць“ недзе ў лесе каля вогнішча. Калі настаў змрок, да іхняй грамадкі падыйшло некалькі незнаёмых, падселіся, пачалі расказваць пра злачынствы цара і яго чыноўнікаў, а хлопцаў папярэджвалі, каб яны не ішлі ў рэкруты, але лепш далучаліся да паўстанцаў.

На першы погляд цяжка паверыць, але гэтыя ваколіцы маюць багатае прамысловае мінулае і то яшчэ якое! Яно датычыць не толькі Млінковай гары за сялом, дзе некалі, мабыць, стаяў вятрак, і канала на „балоце“, які завецца Тартачны роў, бо там, відаць, знаходзіўся тартак, але вялікай тэкстыльнай фабрыкі, што была ў сённяшнім

(Працяг на стар. 2)



*Школа ў Вейках стаіць на пагорку, на самым відным месцы.* *Фота М. Гайдука.*

## Мае свята

18 кастрычніка ўсе працаўнікі сувязі святкуюць сваё свята. Паколькі і я да сённяшняга дня адчуваю сябе працаўніком сувязі, бо на пошце працаваў 25 гадоў, хачу сваё свята адзначыць вось гэтым артыкулам.

Гайнаўка з'яўляецца вялікім цэнтрам сувязі і пасля апошняй рэарганізацыі афіцыйная назва такая: Упраўленне надзору і кантролю (УНіК). Яму падлягае ўвесь былы Гайнаўскі павет і 11 поштаў, што знаходзяцца ў былым Беластоцкім павеце — у гмінах Заблудаў, Гарадок, Міхалова. Гайнаўскі УНіК — шматлюдная сям'я, якая складаецца з некалькіх службаў.

Асноўнай і адначасова найбольшай з'яўляецца служба даручэнняў — 85 пісьманосцаў, якія кожны дзень дабіраюцца да найдалейшых куткоў у сваёй акрузе і даручаюць людзям пісьмы, грошы, тэлеграмы і найбольш газет, у тым ліку 2396 экземпляраў „Нівы“. Найлепшымі поштамі ў распаўсюджванні „Нівы“ з'яўляюцца Нараўка — 270 экз., Рыбалы — 208, Дубічы Царкоўныя — 201 і Клейнікі — 201.

Да найлепшых пісьманосцаў залічваюцца Мікалай Панфілюк, адначасова карэспандэнт „Нівы“ з Дубічаў Царкоўных, ВасільІлькевіч з Чыжоў, Ян Свершч з Белавежы, Мікалай Каравай з Палічнай, Уладзімір Гуралеўскі і Іван Марчук з Рыбалаў.

Гайнаўская пошта з яе 30 раённымі пляцоўкамі здабыла высокі паказчык у чытанні газет: 26 газет на сто жыхароў. Але ёсць такія пошты, як, напрыклад, Белавежа (начальнікам з'яўляецца Баляслаў Кучко), дзе на сто жыхароў прыпадае 54 газеты, у Крулёвым Мосце (начальнік Кацярына Лукашэвіч) на сто жыхароў — 54 газеты, Рыбалы (начальнік Уладзімір Врублеўскі) — 51 газета на сто жыхароў. Многа чытаюць таксама і ў Нарве, дзе начальнікам з'яўляецца Павел Невядомскі, там 46 газет на сто жыхароў.

Важнай паштовай службай з'яўляецца таксама экспедыцыя і транспарт, якія займаюцца давозам пошты ва ўсе паштовыя пляцоўкі, а вечарам збіраюць пасылкі, якія разыходзяцца па ўсёй краіне.

У гайнаўскім УНіКу працуе 30 начальнікаў паштовых аддзяленняў і 40 тэлефаністак. Ва ўсіх паштовых аддзяленнях у сядзібах гмін тэлефонная служба працуе круглыя суткі, а ёсць на гэтай тэрыторыі 11 гмін і горад Гайнаўка.

Ужо некалькі гадоў гайнаўская пошта ўдзельнічае ў спаборніцтве працы паміж іншымі УНіКамі Ваяводскага ўпраўлення пошты ў Беластоку і займае адно з першых месц. У 1976 годзе заваявала другое месца, у 1977 — трэцяе, а ў 1978 — першае месца ў ВУПе. Аналізуючы вынікі гэтага года, ёсць надзея, што і цяпер Гайнаўка не будзе горшай.

Прыемны і чысты выгляд маюць паштовыя будынкі ва ўсёй гайнаўскай акрузе. Гэта дзякуючы ўласнай рамонтнай групе, якая круглы год праводзіць усе бягучыя рамонты.

Гайнаўскі УНіК дабіўся такіх добрых поспехаў пад кіраўніцтвам Мікалая Сулімы. Вялікую дапамогу ў працы аказвае партыйная арганізацыя, сакратаром якой з'яўляецца Уладзімір Кірылюк і аддзяловая рада са старшынёй яе Аляксеем Андрасюком на чале. Гэтыя людзі працуюць на пошце па больш як 20 гадоў і маюць велізарны вопыт у працы.

З нагоды Дня сувязіста ўсім працаўнікам пошты і тэлекамунікацыі, а таксама іх сем'ям сардэчна жадаем найлепшых поспехаў у далейшай працы і жыцці. Папутнага ветру на вашых дарогах, вам — пісьманосцы і манцёры!

**Э. Вайсковіч**

(

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### КОМПАС АГРАНОМА

Глебавая карта Беларусі, выдадзеная ў Мінску, абагульніла шматгадовую працу вялікай групы вучоных, якія аднымі з першых у краіне правялі буйнамаштабныя даследаванні земляў. Яна знаёміць з глебава-геаграфічным раянаваннем рэспублікі, дае звесткі аб тыпах, механічным складзе, увільгатненні і разаранасці ўгоддзяў. Прыведзены звесткі аб якаснай ацэнцы ворыва, лугоў і пашы.

### ДЗЕСЯЦЬ ТЫСЯЧ ДЫПЛОМАЎ

У Жыровіцкім саўгасе-тэхнікуме адбыўся чарговы выпуск тэхнікаў-механікаў сельскай гаспадаркі. Ён стаў юбілейным — трыццатым. Многія выпускнікі сталі славутымі хлебаробамі, атрымалі высокія ўрадавыя ўзнагароды.

Хутка ў тэхнікуме адбудзецца яшчэ адна знамянальная падзея — будзе выпісаны дыплом № 10.000.

### ЦЭМЕНТНЫ КАМБІНАТ

Недалёка ад Касцюковіч вырасце адзін з буйнейшых у Еўропе цэментны камбінат. Магутнасць прадпрыемства складзе амаль 4 мільёны тон прадукцыі ў год. Камбінат размесціцца на малакаштоўных землях мясцовых гаспадарак.

Завяршаюцца пошукавыя работы, складзены праекты будаўніцтва камунікацый і жылля.

### КАЛЯНДАР

**165 гадоў назад**

15.10.1814 нар. М. Лермантаў, рускі паэт.

**130 гадоў назад**

17.10.1849 пам. Ф. Шапэн, польскі кампазітар і піяніст, заснавальнік польскай музычнай класікі.

**115 гадоў назад**

14.10.1864 нар. С. Жэромскі, польскі пісьменнік.

**80 гадоў назад**

14.10.1899 нар. А. Бабарэка, беларускі пісьменнік.

* * * * * * * * * *

*16.10.1909 пецярбургская „Ніва“ пісала: Так прашумеўшыя за апошні час доследы з палётамі на апаратах „цяжэйшых за паветра“ з маторамі адбываліся толькі за граніцай. Але 15 верасня ў Расіі, і менавіта ў Маскве, адбыўся першы палёт такога апарата.*

*Маскоўскія доследы французскага паветраплавацеля п. Леганье адбыліся на Хадынскім полі. П. Леганье аперыраваў з даволі груваскім апаратам Вуазена. Авіятар зрабіў сем палётаў, з якіх удачнымі былі ўсяго два. Самы эфектны — пяты. Біплан у працягу некалькіх мінут знаходзіўся на вышыні трох сажняў і трымаўся вышэй элінга. Калі апарат апусціўся, публіка прарвалася скрозь агароджу, акружыла аэраплан і авіятара і наладзіла яму бурлівую авацыю.*

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 17 Nakład 7.680 egz. S-2





**Помнікі Беларускай зямлі.** Курган Славы пабудаваны ў гонар асобага партызанскага палка „Трынаццаць“ пад камандаваннем Героя Савецкага Саюза В. Грышына ў вёсцы Дабужа Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці.
Фота У. Казлова і Э. Трыгубовіча.

**(Працяг са стар. 1)**

# Вейкі

урочышчы Рабінаўка. Выраблялі ў ёй сукно розных гатункаў і ў значнай колькасці яно трапляла нават на далёкія сібірскія і кітайскія рынкі. Якраз Рабінаўка і была падпораю для ўсяе навакольнай бядоты: хоць за марны грош, але ўсё ж можна было знайсці там работу і пры машынах, і пры нарыхтоўцы дроў і торфу, якімі „гналі ў фабрыцы пароўку“, ну, і, вядома, пры падвозе сыравіны і вывазе гатовых тканін. Фабрыка ў Рабінаўцы працавала недзе да 1926 года, потым уладальнік яе не вытрымаў канкурэнцыі з іншымі прадпрыемствамі, пакупнікі вывезлі не толькі машыны, але разабралі і цагляныя сцены. Цяпер на яе месцы час ад часу скрыгане аб плуг кавалак цэглы, і старэйшыя людзі прыгадваюць, як то калісьці „рабілі ў Брыля“, бо апошні ўладальнік ці арандатар фабрыкі насіў такое прозвішча.

Міжваеннае дваццацігоддзе і час фашысцкай акупацыі — гэта ў Вейках няспыннае змаганне супраць грамадскай несправядлівасці, уціску, няволі. Яшчэ ў пачатку дваццатых гадоў паўстала тут арганізацыя Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Яе духоўным кіраўніком і маторам быў Уладзімір Ціванюк. У памяці працаваўшых з ім ён астаўся чалавекам справядлівым, адданым ідэі, умеючым словам і ўласным прыкладам падтрымаць іншых на духу і запаліць да дзеяння. Вёў ён выясняльную працу не толькі сярод дарослых, але патаемна збіраў моладзь, гутарыў з ёю аб мэце камуністычнага руху, арганізаваў да дзеяння, рыхтаваў да ўступлення ў КПЗБ. Недзе ў 1936 годзе ўся вейкаўская арганізацыя КПЗБ была раскрыта, паліцыя арыштавала 16 чалавек, членаў і сімпатыкаў. Загналі іх на пастарунак у Ялоўку, катавалі, трымалі ў арышце некалькі дзён. Потым на судзе У. Ціванюк быў засуджаны на 6 год турмы. Вярнуўся ён у роднае сяло ў 1939 г., але пажыў не доўга: трапіў у кіпцюры нямецкіх фашыстаў, і ў 1941 г. яго расстралялі па даносу былога санацыйнага паліцыянта. Да КПЗБ належалі: Аляксандр Банцарэвіч, Міхал Вайцяшук, Аляксандр Варона, Іосіф Грыка, Іосіф Ціванюк, Уладзімір Ціванюк II і шэраг іншых. У Вейках дзейнічаў таксама гурток Грамады. Цікава, што ў квітках за ўплочаныя членскія зносы не пісалі фактычнага імя і прозвішча, але толькі імя і вясковую мянушку, напр. „Язэпка Волісяў“ — усё гэта дзеля таго, каб не разгадала паліцыя.

Вялікую ахвяру ўнеслі Вейкі ў змаганне супраць нямецкага фашызму. На розных франтах як воіны Савецкай Арміі загінулі: Уладзімір Азябла, Іван Касацкі, Канстанцін Ціванюк, Міхал Шуляк і іншыя. Іван Гайдучэня служыў у I Арміі Людовага Войска Польскага і загінуў восенню 1944 года ў абароне Магнушэўскага плацдарма каля Варшавы. Служылі ў Савецкай Арміі і Людовым Войску Польскім Аляксандр Грыка, Іосіф Казёл, Мікалай Кардаш, Сяргей Касацкі, Міхал Мядзведзь, Уладзіслаў Орач, Іван і Аляксандр Ціванюкі, Іосіф Хрэн, Станіслаў Урбан і іншыя, усіх проста немагчыма пералічыць. У тутэйшых ваколіцах дзейнічалі партызанскія атрады, адзін з іх, які ўзначальваў савецкі афіцэр з мянушкай Максім, меў сваю базу ва ўрочышчы Азярына ў Вейкаўскім лесе. Вёска дапамагала партызанам харчамі, адзежай, весткамі пра фашыстаў. Солтыса Фёдара Ляшчука за тое, што ён не данёс пра адну з пабывак партызанаў у сяле, а Адама Варону і Іосіфа Хрэна за супрацоўніцтва з партызанамі немцы вывезлі ў канцэнтрацыйны лагер, і яны там памерлі. Сямёна Гайдучэню фашысты расстралялі ў Грабоўцы пад Беластокам за тое, што ён дазволіў партызанам пераначаваць у сваёй хаце і не данёс пра гэта. Але гэта не здолела запалохаць Вейкі, у іх партызаны заўсёды знаходзілі падтрымку і дапамогу.

Перамога над фашызмам яшчэ не абазначала ў гэтых мясцах устанаўлення мірнага жыцця. У першыя гады пасля вайны ў Вейкі пачалі наведвацца банды рэакцыйнага падполля і палявацы на тых „камуністаў“ і „бальшавікоў“, якім пашчаслівілася перажыць акупацыю і зняволенне ў канцэнтрацыйных лагерах. Спадзяваліся, што канчаткова скораць аслабленую вайной баявую вёску.

Сёння Вейкі — гэта працавітая і гаспадарлівая вёска. Хоць зямля тут слабая, але сяляне ўхітраюцца вырошчваць добрыя ўраджаі збожжа і бульбы, гадуюць многа малочнага быдла. Такія гаспадары, як Фёдар Банцарэвіч, Станіслаў Варона, Уладзімір Грыка, Браніслаў Урбан здаюць у злеўню па 100 і болей літраў малака ў дзень. З Вейкаў выйшла не мала людзей, што здабылі вышэйшую адукацыю, напрыклад: Зінаіда Банцарэвіч — лекар, Марыя Ваўранюк — настаўніца, Данута і Віктар Грыка — інжынеры, Аляксандр Ціванюк — афіцэр і г.д.

І цяпер нават чужому воку прыемна бачыць, як з гушчэчы садавіны вакол хутароў вырастаюць тут новыя абшырныя мураваныя клуні, аборы, дамы.

**Мікалай Гайдук**




**З пленума ГП БГКТ ● Партсакратар з Кожына ● Новыя вершы Максіма Танка ● Мінская сустрэча з мастаком ● Рэцэпт Бізуна на спакойную старасць ● Дзядзька Максім не можа спаць, а дзядзька Квас развітваецца з чытачамі ● Буг у агні ● Новы Бельск ● Весткі з Васількова, Супраслі, Мілейчыц, Бялевіч, Чыжоў, Стараберазова, Белавежы, Дубіч, Бялок, Руткі, Азяблаў, Масева ● Фота-рэтра ● Песня „О, матуля мая“.**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 14 X** — 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek oraz film fab. z cyklu „Niezwykła piątka". 10.20 Antena. 10.45 Samoloty i ludzie — fran. film dok. 11.30 Dziennik. 11.45 Rolnicze rozmowy. 12.20 Na bezdrożach Amazonii. 12.40 Pr. rozr. dla dzieci. 13.10 Tylko w Niedzielę. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.15 Korzenie — odc. VI. 21.20 Tylko w Niedzielę c.d.

**Poniedziałek 15 X** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Naucz. pocz. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 10 minut — teletur. 17.05 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.30 Cień — pol. film fab. 19.00 Dobranoc. 19.30 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV — Tadeusz Różewicz „Kartoteka". 21.50 Dziennik. 22.05 Śledztwo zostało wznowione — pr. publ.

**Wtorek 16 X** — 15.25 Program dnia. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Młodych — Magazyn szkolny. 17.00 Interstudio. 17.25 Sonda. 17.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.20 Między nami jaskiniowcami. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Saga rodu Rius — odc. III hiszp. filmu TV. 21.10 Świadkowie. 21.30 Camerata. 21.55 Dziennik. 22.10 Teatr Małych Form — St. Wyspiański — Teatr mój... — wystąpi D. Olbrychski. 22.40 Sport.

**Środa 17 X** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Mat. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kameleon — pr. dla dzieci. 16.55 P. nożna. Polska—CSRS. 18.45 Dom i my. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 P. nożna. Holandia—Polska. 22.05 Dziennik. 22.20 Karmazynowa zasłona — fr. film fab.

**Czwartek 18 X** — 15.25 Program dnia. 15.30 Decyzje piętnastolatków. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Dla młodych widzów — Czwartek TDC oraz szwedzki film TV „Pippi wśród piratów". 17.30 Skarbiec. 17.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.25 Rep. wojsk. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 07 zgłoś się — odc. pt. „Dlaczego pan zabił swoją mamę" — pol. film TV. 21.15 Pegaz. 22.00 Dziennik. 22.15 Sport. 22.45 Nigdy więcej — „Feldzug 1939 — Pamiątka z Polski" — film dok.

**Piątek 19 X** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Ped. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kółko graniaste — dla małych dzieci. 16.55 Magazyn motor. 17.25 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.55 Najmłodszy z rodu Hamrów — odc. VI — tel. film CSRS. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Niewdzięczność — pol. film tel. 21.40 Dziennik. 21.55 Studio Teatralne — J. L. Garagiale — „Oszczerstwo".

**Sobota 20 X** — 13.30 Program dnia. 13.35 Radzimy rolnikom. 13.45 Obiektyw. 14.05 Dziennik. 14.15 Radar. 14.30 Studio-8. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Studio-8 c.d. (js)

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 12 X** — 7.05 Film fab. 16.35 Film anim. 18.00 Odrodzenie — film dok. 19.35 Film fab. 21.20 Koncert.

**Sobota 13 X** — 7.05 Koncert zesp. „Bałałajka". 14.10 Film fab. 14.50 Nie do wiary. 16.50 Mistrz. Europy w siatkówce. 17.20 Film fab.

**Niedziela 14 X** — 7.00 Koncert. 9.00 Film fab. 11.50 Hokej. Spartak—CSKA. 13.30 Klub podróży. 15.30 Mistrz. Europy w siatkówce. 16.00 Panorama międzynar. 16.45 Film anim. 17.15 Koncert. 19.35 P. nożna. ZSRR—Rumunia.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05—12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Otalia z Bahii — brazyl. 16—17. Małżeństwo Orłowów — radz. 18—19. Stawiam na trzynastkę — czes. 20—21.

**Bielsk Podl.** Okupacja — w 26 obrazach — jug. 15—16. Uśmiech — USA 17—18. Policja przygląda się — wł. 19—20. Sugerland ekspress — USA 21.

**Czeremcha** 7 piegów — NRD 16—17. Ponieważ się kochają — rum. 20—21.

**Czyże** Adaś i Ola — czes. Królewskie marzenie — USA 17—21.

**Gródek** Komisarz w spódnicy — fr. 20—21.

**Hajnówka** Julia — USA 15—17. Kombinator — NRD 18—19. Wielki samotnik — fr. 20—21.

**Michałowo** Trzy kobiety — USA 16—17. Miłosne życie Budimira Trajkovicia — jug. 18—19. Brawurowe porwanie — USA 20—21.

**Mielnik** Przez góry skaliste — USA 17. O jeden most za daleko — ang. 21.

**Milejczyce** Gdziekolwiek jesteś Panie Prezydencie — pol. 17. Człowiek klanu — USA 20—21.

**Narew** Joseph Andrews — ang. Niech żyją duchy — czes. 17—21.

**Narewka** Stan wyjątkowy — buł. Kiedy dojrzewa jagoda — jug. 17—21.

**Nurzec** Skarb na wyspie — rum. 16—17. Agnieszka idzie na śmierć — wł. 18—19. Umarli rzucają cień — pol. 20—21.

**Orla** Wdowieństwo Karoliny Zasler — jug. Mareczku podaj mi pióro — czes. 17—21.

**Rajsk** Horoskop szczęścia — czes. Krótki sezon — wł. 17—21.




Былі часы, калі мядзведзі з'яўляліся ў Белавежскай пушчы такой звычайнай звярынай, як алені, серны, дзікі... У лясной іерархіі сталі зараз жа за зубрамі. Смачнае мяса і каштоўная мядзвежая шкура ад стагоддзяў аднак вялі да затраты гэтага віду.

А пачалося ўсё, бадай, ужо з 1409 г., калі ў пушчы Уладзіслаў Ягайла зрабіў вялікае паляванне з думкай падрыхтаваць запасы мяса на выправу супраць крыжакаў. Пала тады шмат усялякай звярыны, не толькі мядзведзяў. Хаця Ягайлы не можна абвінавачваць у затраце ніякага віду, бо нічога такога ён не зрабіў і не першы ён паляваў у пушчы, то ўсё-такі было гэта першае ў гісторыі белавежскіх нетраў такое вялікае паляванне. З Ягайлы і пачалася традыцыя наладжвання тут лоўляў польскімі каралямі. Зрэшты, толькі яны мелі ад 1538 г. на гэта выключнае права. Яны і асобы, прыналежныя да каралеўскага двара.

Некаторыя з лоўляў запісаліся ў памяці людзей дзякуючы толькі мядзведзям. Вось у час палявання Стэфана Баторыя ад 6 да 10.I.1581 г. амаль не дайшло да няшчасця. Успуджаны з бярлогі мядзведзь кінуўся на хлопчыка, які знаходзіўся сярод паляўнічых. Моцна яго пакалечыў, але хлопчыку ўдалося пазбегнуць смерці. Баторы даў тады яму даволі вялікую грашовую кампенсацыю. Амаль свайго жыцця не загубіў Аўгуст II, які 3.XII.1705 г. выбраўся сам з кап'ём і кардэлясам на мядзведзя. Мядзведзь узяў яго пад сябе, і толькі дзякуючы сіле і спрытнасці каралю ўдалося вырвацца з лапаў звяра.

Змяншэнне ліку мядзведзяў у пушчы выразна зазначылася пад канец XVIII стаг. Пад маркай неабходнасці аховы паляўнічай звярыны, лясныя служачыя масава вядуць адстрэл пушчанскіх драпежнікаў, да якіх належыць і мядзведзь. Дапамагаюць ім выдатна і нелегальна браканьеры. У 1798 г. (пару гадоў пушча знаходзіцца ўжо ў царскім валоданні) вынішчэнне драпежнікаў замянілі нават у прыбытковы занятак. Кожны ніжэйшы служачы за права адстрэлу мядзведзя плаціў па 5 руб. і 76 кап. Дзякуючы таму, што мядзвежая шкура была найбольш каштоўнай са шкураў усіх драпежнікаў, на мядзведзяў найбольш і палявалі.

Адстрэл драпежнікаў устрымалі ў 1821 г. Мядзведзяў у пушчы было тады ўжо няшмат. Зрэшты, іншых драпежнікаў таксама, мо за выключэннем ваўка, якога адстрэльваць ізноў дазволілі ў 1829 г.

У 1844 г. аднатаваны выпадак паядынку вялікага мядзведзя з зубром. Сталася гэта пры дарозе з Белавежы ў Рудню. Вачавідцы гаварылі, што звяры на 100 сажняў вакол паламалі дрэвы і вытапталі кусты. Перамог мядзведзь. Баі паміж мядзведзямі і зубрамі здараліся часцей, ды зубры ўмелі даволі добра бараніцца.

Першае царскае паляванне ў Белавежскай пушчы адбылося ў 1860 г. Мядзведзь быў тады ўжо рэдкасцю. Ніводнаму з паляўнічых не ўдалося яго застрэліць.

У 1873-1878 гадах аднатавана некалькі выпадкаў, калі мядзведзь нападаў на зуброў. У гэты самы перыяд застрэлены тры мядзведзі. Былі гэта, пэўна, апошнія мядзведзі ў пушчы. Няма іх ужо ў ніякім спіску звярыны, упаляванай падчас царскіх паляванняў, ці ў спіску адстрэленых драпежнікаў. Бо драпежнікаў ізноў пачалі адстрэльваць. Загадчык пушчай палкоўнік Андрэеўскі зацвердзіў у 1889 г. таксу, якая прадбачвала за застрэленага ў бярлозе мядзведзя 50 руб., а за застрэленага па-за бярлогам — 25 руб. Наступныя таксы, з 1891 і 1896 г., мядзведзя ўжо не бяруць пад увагу.

У 1910 г. здарыўся адзіночны выпадак паяўлення ў пушчы аднаго мядзведзя. Быў гэта прышэлец з глыбіні Расіі. Яго застрэлілі.

Аб вяртанні ў пушчу мядзведзяў пачалі думаць толькі незадоўга перад II сусветнай вайной. 8.XI.1937 г., па ініцыятыве адміністрацыі Дзяржаўных лясоў, у Белавежу прывезлі з заапарка ў Познані цяжарную самку „Лёлю". Упусцілі яе ў спецыяльную двухчастковую, з бярлогамі, клетку, пастаўленую ў Нацыянальным парку, ва ўрочышчы, якое потым пачалі называць „Недзведзюўка". Праз тры тыдні „Лёля" атрымала кампанію ў постаці 4 медзведзянят, купленых у Беларусі. Называліся яны „Рыжы", „Грубачэк", „Бялка" і „Чарна". Нашчадкі „Лёлі" (яна таксама родам з Беларусі) прыйшлі ў палове студзеня 1938 г. Былі гэта „Ясь" і „Малгося". У красавіку 1938 г. прывезеных у 1937 г. 4 медзведзянят выпускаюць на свабоду. На жаль, яны пачалі наведваць сялянскія хаты, выядалі яйкі, хлеб, выпівалі малако, зачэплівалі прахожых і пастухоў. У чэрвені адно медзведзяня сяляне з гміны Вешхавіцы забілі, другое, якое пачало таксама зачаста выходзіць з лесу, дырэкцыя Дзяржаўных лясоў у Белавежы адаслала ў заапарк у Варшаву.

У гэты час „Ясь" і „Малгося" жывуць у маці, ды часта выходзяць з клеткі праз шчыліны паміж прутамі. Калі ўжо падраслі і аднойчы не маглі пералезці ў клетку да маці, пачалі жыць у пушчы самастойна, зрэдку наведваючы яшчэ „Лёлю".

У пачатку чэрвеня 1938 г. у Белавежу прывозяць з Расіі 4 новых медзведзянят. З клеткі выпускаюць іх у ліпені. На жаль, і гэтыя набліжаюцца да пасёлкаў, прычыняюць шкоды ў маёмасцях, нападаюць на людзей. У эфекце двое медзведзянят страцілі ад сялян жыццё, двое другіх хутка вывезлі ў заапарк у Варшаву.

Летам 1938 г. „Лёля" атрымала новую кампанію — 4-гадовага самца з Расіі. Зімой з 1938 на 1939 назіраецца будаванне бярлогаў „Ясем" і „Малгосяй". У сакавіку 1939 г. „Ясь" і „Малгося" наведваюць маці. Яе неўзабаве пераводзяць у іншы куток пушчы.

Прыходзіць II сусветная вайна. Невядомы нам лёс мядзведзяў у гэты перыяд. Некаторыя гавораць, што немцы прывезлі ў пушчу аднаго вельмі грознага самца, адабранага ў цыганоў Меў ён адпужваць сялян ад сувязі з партызанамі. Ды сваёй задачы, як ведаем, не выканаў. Вайну перажыло чатыры, або нават і пяць мядзведзяў. Што з імі здарылася потым, дакладна невядома. Мабыць, сталі здабычай браканьераў.

І так, ізноў мядзведзяў у пушчы няма. Выпадак, калі ў 1963 г. на тэрыторыю пушчы заходзіў адзін мядзведзь (з глыбі Беларусі), аказаўся адзіным Потым сімпатычных кудлачоў ніхто тут не бачыў.

**Пётр Байко**

Педагагічныя разважанні

## Этапы ў фізічным і псіхічным развіцці чалавека

Многія бацькі, асабліва маладыя, пападаюць у паніку, назіраючы за сваімі дзецьмі. Калі тым усяго па некалькі год, яны надта хаатычныя. Як дарастаюць, яны нахабныя і са зменлівымі настроямі. У школьным узросце іх веды „недасканалыя". Бываюць сярод бацькоў і такія, што не лічацца з псіхічнымі магчымасцямі дзяцей і вымагаюць ад іх болей, чым яны могуць, і гэтым самым даводзяць да страты веры ў свае сілы, нервознасці і расстройстваў.

Таму іменна сёння звернем увагу на асноўныя этапы развіцця чалавека і іх уласцівасці. Зразумела, абмяжуемся да тых этапаў, якія адыгрываюць ролю ў выхаванні дзяцей.

Першы этап — **зародкавы.** Гэта час ад зачацця да нараджэння. Найважнейшыя яго ўласцівасці: вельмі хуткае павелічэнне вагі, велічыні і далёка ідучая спецыялізацыя ў развіцці розных тканак. Гэты этап, асабліва стан здароўя маці і яе самаадчуванне ў часе цяжарнасці, моцна ўздзейнічаюць на характар і псіхічнае развіццё дзіцяці, якое народзіцца. Таму, каб дзіця было моцнае, здаровае і яго псіхічнае развіццё было нармальнае, нам неабходна зрабіць усё магчымае, каб будучую маці акружала самая прыемная атмасфера.

Другі этап — **немаўляцтва.** Пачынаецца ён у моманце нараджэння і працягваецца да 18-24 месяца жыцця. У гэтым часе дзіця авалодвае асноўнымі рухамі і адначасова ў яго ўзнікае пачуццёвая, біяпсіхалагічная сувязь з маці. Значыць, гэты этап асабліва важны. Іменна ад таго, як задавальняюцца фізіялагічныя і псіхічныя патрэбы дзіцяці, залежыць яго псіхічная раўнавага ў пазнейшыя гады. І зноў, калі мы хочам, каб нашае дзіця вырасла на здаровага, развітага і ўраўнаважанага чалавека, нам нельга скупіцца на цеплыню і сардэчнасць да яго. Калі дзіця пачынае браць у рукі ўсё, што знаходзіцца блізка яго, не перашкаджайце яму, глядзіце толькі, каб гэта не пагражала акалечаннем ці заражэннем. Маніпуляваць прадметамі — браць іх у рукі, дакранацца да іх, кідаць імі — гэта асноўны спосаб азнаямлення з акружаючым светам.

Трэці этап — **дзяцінства.** Ён ахоплівае час ад другога да 11-13 гадоў жыцця, гэта значыць да з'яўлення першых прызнакаў палавой спеласці. На гэтым этапе ў дзіцяці развіваюцца зацікаўленні знешнім светам, адначасова паўстаюць у яго сувязі з аднагодкамі, яно вучыцца ў меру правільна выказвацца ў мове, на пісьме і малюнкам, а таксама браць на сябе розныя грамадскія абавязкі. У першай фазе гэтага этапа, дакладней — паміж другім і трэцім годам жыцця, асноўная форма дзіцячай актыўнасці — гэта гульні, асноўны спосаб азнаямлення са светам — гульня і пытанні, часта таксама — наследаванне дарослым. Таму дзеці гуляюць у гаспадыняў, мамаў, і перш за ўсё — пытаюць. Паміж 3 і 6 годам жыцця зацікаўленні пытаннямі, маніпуляваннем, канструяваннем і наследаваннем крыху змяншаецца, затое выразна павышаецца імкненне да заняткаў у калектыве і ўменне жыць і працаваць у групе. Між 6 і 9 годам жыцця, калі дзіця ўжо ходзіць у школу, яго веды аб акружаючым свеце ўзбагачаюцца вельмі інтэнсіўна, а ў суадносінах з аднагодкамі яно пачынае спаборнічаць. Ва ўзросце ад 9 да 12 гадоў у выніку далейшага пашырэння ведаў і набывання новага вопыту, дзіця прывучаецца крытычна ацэньваць свае ўчынкі і што самае важнае — свядома пачынае займаць акрэсленую маральную пазіцыю.

Найцяжэйшы аднак у жыцці чалавека — гэта чацверты этап, або інакш: **час станаўлення характару,** які пачынаецца ў 11-13 і канчаецца ў 20-21 гадах жыцця. На гэтым этапе выступаюць у чалавека ў аднолькавай ступені схільнасці да летуценнасці, мараў, як і вялікая патрэба сябраваць з аднагодкамі таго самага і іншага полу, станы апатыі і сімптомы творчага ўздыму, узмоцненая актыўнасць і вялікая стамляльнасць нервовай сістэмы пры агульнай раздражальнасці. Таму да чалавека ў гэтым узросце трэба адносіцца з вялікай памяркоўнасцю і паблажлівасцю да ўсіх дысгармоній і цяжкасцей у яго паводзінах, а самае важнае — утрымоўваць блізкую сувязь з ім. Бо

(Працяг на стар. 4)

## Новы сезон у тэатры распачаўся...

...спектаклем паводле п'есы Бернарда Шоу „Прафесія пані Уорэн", напісанай аўтарам у 1894 годзе, „каб звярнуць увагу на факт, што прычынай прастытуцыі... з'яўляецца звычайна эксплуатацыя, недааацэньванне жанчын і перамучванне іх такім ганебным чынам, што найбяднейшыя сярод іх вымушаны хапацца за прастытуцыю, каб утрымацца пры жыцці". Так сцвярджаў аб п'есе сам аўтар. Быў гэта вельмі адважны крок Бернарда Шоу, зроблены ім у самым пачатку яго кар'еры. І цяжка здзіўляцца, што тагачасны тэатральны цэнзар адразу забараніў яе ставіць.



У беластоцкім спектаклі „Прафесіі пані Уорэн" галоўную ролю іграе шматгадовая беластоцкая актрыса Данута Рымарская (пані Уорэн), ролюІвіі, яе дачкі, іграе маладая актрыса Іяанна Ладынская. Акрамя таго, у спектаклі прымаюць удзел вядомыя беластоцкія акцёры Юліюш Пшыбыльскі, Кшыштоф Зембінскі, Станіслаў Яшкоўскі і малады акцёр Анджэй Шчытко.

(ач)



### ТЭЛЕПАТЫЯ

Цягнік нечакана затармазіў. Прабудзіліся. Нехта сапсаваў паветра. Нехта...? У купэ было іх двое. Зрабілася нянёмка. Глянулі, збянтэжаныя, адзін на другога.

— Ён думае, што гэта я, несумненна гэтак думае, — лезла ў галаву першаму.

— Ён упэўнены, што гэта мая работа. Так, бо чаго ж бы гэтак глянуў на мяне, — думаў другі.

Прыўзняўся і прыадкрыў дзверы.

— Так, ён не толькі думае, але і ўпэўнены. Інакш не адкрываў бы так дэманстрацыйна дзвярэй. Бачыш, блыха аблезлая. Ад сябе віну адвесці хоча. — не мог пагадзіцца першы.

Выняў і закурыў сігарэту.

— Ага, сказаць не адважыцца, дык намёкамі. Ух ты заморышу! Бачыш, напасць ціхую весці ўздумаў, такія найгоршыя. З-пад цішка толькі. Такі і ўкрасці можа, — выняў насоўку і голасна высмаркаўся.

— О, ужо нібы сморкаць яму захацелася, зразумець дае, бочка лупатая. Інтэлігенцікам прыкідваецца. Думае, як у касцюмчыку і гальштуку пад рылам распасеным — дык усё можна. А сам зладзюга можа, жонку можа дома б'е, бедная жанчына. Абмывае яго, корміць, а ён здзекваецца над няшчаснай, францік лысы, — кашлянуў.

— За горла ўжо яго нібы душыць, сухотнік. Кашляй, кашляй — дакашляешся. Валочацца во такія ноччу, што сумленнаму чалавеку спакойна праехаць не дадуць. Каб так міліцыя, здаецца, пратрасла, то нябось выспеваў бы ўсё, не адзін, напэўна, грашок на душы мае. Маці толькі шкада. Гадуе такога, цешыцца, што радасць ды падтрымка на старыя гады будзе, а ён за ласку, за дабрату яе ў магілу заўчасна загоніць, — фуркнуў і вышаў у калідор.

— А ідзі, каб ты не вярнуўся! Распасся чужым коштам, ды думае, што ўсе такія, як ён. Чэснага чалавека з сабой, брыда, раўняць будзе.

На калідоры паявіўся кандуктар.

— Штраф заплаціць прыдзецца, гэта ж першы клас, — звярнуўся да таго, што ў калідоры. — О, і вы таксама, — глянуў на білет сядзеўшага ў купэ. — Чытаць не ўмееце?

— Але ж, пане...

— Калі не маеце, дык крэдытныя выпішу, — выняў штрафны блакнот.

— О, з такім выжыць...! — загаварылі ўраз за адышоўшым кандуктарам, ды глянулі адзін на другога.

**Бізун**




**ВОЛЬГА БЯГЛЮК**



Чатырнаццаць гадоў працуе Вольга Бяглюк у гайнаўскай малачарні ў аддзяленні казеінярні. Яна брыгадзірша. Кіраўніцтва прадпрыемства высока цэніць яе за працавітасць, дысцыпліну і старанлівасць. За мінулыя восем месяцаў бягучага года пад яе наглядам выпрадукавана 136 тон першаякаснага казеіну. Любяць і паважаюць яе супрацоўнікі. Яна прывучае да прафесіі малачара маладых людзей. Вольга Бяглюк — здольны арганізатар. Па яе ініцыятыве адбыліся шматлікія грамадскія пачыны. Карыстаецца заслужаным аўтарытэтам. За выдатныя поспехі ў працы Вольга Бяглюк узнагароджана залатым значком пераможцы ў сацыялістычным спаборніцтве працы і передавіка-малачара. **(яц)**

## Міхал Барвюк і яго жонка

Міхала Барвюка родам з Старога Корніна Дубіцкай гміны ведаюць далёка ў наваколлі. Гэта добры самародны майстар на ўсе рукі, як кажуць. Ён умее наладзіць кожны тэлевізар, радыёпрыёмнік, халадзільнік. Таксама адрамантуе матацыкл, матаролер, а нават самаход. Кожная машына пасля яго рамонту доўга служыць свайму гаспадару і зразумела, што ўсе такой работай задаволены.

Ён таксама і каваль дасканалы. Мае маленькую, яшчэ бацькоўскую кузню і, калі што выканае ў ёй, гэта рэч прыгожая і добрая.

Гэты малады чалавек працуе кавалём-слёсарам у сельгасгуртку ў суседняй вёсцы Махнатае. Нельга не сказаць і пра жонку Міхала — Лідзію, якая ўжо некалькі гадоў працуе ў мясцовым кіёску „Рух". Так як і муж, яна вельмі стараецца быць добрай у сваёй працы. У продажы мае шмат неабходных тавараў. Яе кіёск чысты і прыемны, ветлівая яна да ўсіх людзей. Ад свайго кіраўніцтва атрымала нядаўна ўзнагароду.

**М. Панфілюк**




## ВЯСЕЛЬНАЯ




*Ой, харошы наш малады, харошы,*
*над усю свацьбу наш малады дарожшы:*
*на ём персцёнкі зіюшчыя, на ём камашы рыпушчы,*
*ой, слава, слава ўсяму баяр'ю праз яго маладого!*
*Ой, хароша наша малада, хароша,*
*над усю свацьбу наша малада дарожша:*
*на ёй персцёнкі зіюшчыя, на ёй камашы рыпушчы,*
*ой, слава, слава ўсяму баяр'ю праз яго маладую!*
*Ой, харошы, старшы чашнічак, харошы,*
*над усю свацьбу старшы чашнічак дарожшы:*
*на ём персцёнкі зіюшчыя, на ём камашы рыпушчы,*
*ой, слава, слава ўсяму баяр'ю праз яго маладого!*
*Ой, хароша старша дружачка, хароша,*
*над усю свацьбу старша дружачка дарожша:*
*на ёй пярсцёнкі зіюшчыя, на ёй камашы рыпушчы,*
*ой, слава, слава ўсяму баяр'ю праз яго маладую!*

*(Такое ўслаўленне належыцца ўсім членам вясельнай „дружыны").*

Ад Антаніны Лясоты, 1901 года нараджэння, вёска Цісоўка гм. Міхалова, якая цяпер жыве ў Беластоку, запісаў у сакавіку 1979 года Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

што такое страх перад смерцю. Немец прывалок з панадворка драбіну, даставіў яе да пралазу і лезе..., а нам здаецца, што вось-вось... Ён аднак толькі высунуў галаву праз гэты пралаз і, нікога не ўгледзеўшы, шваргануў штосьці афіцэру і апусціўся назад... Пасля выяснілася, што нашы госці-чырвонаармейцы пападалі за дымнік, і там гэты немец іх не прыкмеціў.

— Яны пайшлі некуды, — расказвае Іван Ваўрэнцюк. — А ранены лейтэнант застаўся. Маці кожны дзень прамывала яму рану марганцоўкай, знойдзенай у ваенным гарадку, ды вясковыя цёткі падказалі, каб яшчэ і змазвала账 ператопленым, але не салёным гусіным жырам. Праз тыдзень часу наш лейтэнант выразна ачунеў, твар набраў колеру, стаў гаварыць, а яшчэ прайшло пару дзён — і ён ужо прабаваў сядаць. Тады, аднак, адзываўся страшэнны боль ад кулі, што засела пад хрыбтом. Патрэбна была аперацыя. Пайшла маці ў Сямяцічы. Быў там старэнькі хірург. Кінулася яму да рук, паўтарыла сваю легенду аб пляменніку і пачала прасіць-маліць...

Лекар згадзіўся прыняць лейтэнанта ў перапоўненую сямяціцкую бальніцу, ды яшчэ накрычаў на сялянку, каб яна яго па руках не цалавала і лямантаў сваіх не разводзіла, бо ён на тое і ёсць лекарам, каб людзей ратаваць. Калі Ваўрэнцюкі разам з хворым прывезлі медыкаменты і пуд цукру, што падабралі ў штабе ваеннага гарадка ў Крупіцах, бо плаціць не мелі чым, лекар загадаў усё гэта перадаць у агульнае карыстанне бальніцы.

— Бо немцы, — успамінае Іван Ваўрэнцюк, — не давалі ў бальніцу нічога: ні лекаў, ні харчоў. Нават пасцель і тую трэба было мець сваю. Хворых — рускіх ваенных і мясцовых жыхароў — кармілі добрыя людзі. Маці таксама кожны дзень насіла нашаму Ігару нейкую яду, а што заставалася, раздавала іншым. Так прайшло два тыдні. Аднойчы позні м вечарам нечакана наш Ігар вярнуўся дамоў. „Што сталася?" — пытаюць бацькі. „Хірург загадаў, каб цераз гадзіну часу не было мяне ў бальніцы", — паясніў лейтэнант. На другі дзень разляцелася па наваколлі вестка, што ўсіх вылечаных і недалечаных савецкіх раненых забралі з сямяціцкай бальніцы і накіравалі ў нейкі лагер. Значыць, хірург папярэдзіў нашага Ігара, напэўна, здагадваючыся, што ён не наш пляменнік, а ваенны ды і не радавы, бо гэта ж не цяжка пазнаць...

Лейтэнант *Сураў Ігар Уладзіміравіч* аставаўся ў Ваўрэнцюкоў яшчэ некалькі месяцаў. Добрыя людзі дапамаглі аформіць яму дакументы. Ён аднак імкнуўся да барацьбы. Ужо ў Сямяцічах наладзіў першыя падпольныя кантакты... Аб гэтым, аднак, наступным разам.

**Віктар Рудчык**




**відьма** — начны матыль, які часта ўлятае ў хату і кружыць вакол святла. Зачыны окно, бо відьмы налітят. Злапай відьму, бо я боюсь. Ныма спасенія од тых відьмув.

**заклунічэ** — тое поле, якое знаходзіцца зараз за пуняю. Трэба заклунічэ зораты. А мы найпэруч на заклунічы картохлі выкопалі. За заклунічом ныкепска лонка.

**знэб** — вельмі нізкае месца, балота Але ж ёму там і знэб попаў. Аж там, за Колёвым знэбом, сігнал стояў.

**олёс** — месца на рацэ ці возеры, якое пачынае зарастаць. Колісь тут рычка була, а тэпэр одын олёс. У ёго коло сажоўкі так як у олёсовы. Цілы луг олёсом ліжыт.

**горнота** — адлеглая частка прасторы, тое, што далёка-далёка, недзе аж ля гарызонту. Там далеко выдно якуюсь горноту, жэ ны поняты чыю, бо ўоднэ сходыцця. Шчэ горнота ныобсіяна. То твое шчэ аж там, за горнотою?

**тэмрава** — мошка, якая мітусіцца ў вячэрнім надвор'і, асабліва каля святла. Налітыло тэі тэмравы, жэ аж страх. За тэмравою світа ныводно.

*(Дубічы Царкоўныя)*



## ЧАМУ МОЛАДЗЬ УЦЯКАЕ З ВЁСКІ

*Чэсць і слава ўсім старым,*
*Што на вёсках пражываюць,*
*Хлеб насушны для людзей*
*Ў цяжкім трудзе здабываюць!*

*Моладзь ўся з вёскі ў горад уцякла,*
*Бо школы ўсялякія яна там мае,*
*Рабіць не хоча на зямлі,*
*Дык хлеба лёгкага шукае.*

*Усяк жа горад — то не вёска,*
*Дзе на полі трэба там рабіць.*
*Ляпей у горадзе застацца*
*І там панком трохі пабыць.*

*А хлеба, булак, мяса, малака*
*У горадзе ўсе крамы маюць,*
*Усім яны там прадаюць,*
*Ды і нам не выдзяляюць.*

*А калі застанешся там жыць,*
*Дык трэба зноў грошы мець,*
*Бо за грошы трэба ўсё купіць,*
*Ды і у бары пасядзець.*

*Грашэй з работы многа не дадуць*
*І заўжды тут будзе іх замала,*
*То бацькі з вёскі іх прышлюць,*
*Каб іх і тут не бракавала.*

*І што ж ты, бацька, ты ж стары*
*І школ ніякіх ты не маеш,*
*То ты ляпей на гаспадарцы пасядзі,*
*А гаспадарыць як — ты добра знаеш.*

*І так на вёсцы бацька сам застаўся*
*Й зямельку стаў сваю рабіць,*
*Шкада ж зямелькі выракацца*
*І вёску родную забыць.*

*Зямлі і так замнога аблагуе,*
*Ляжыць, карысці жаднай не дае,*
*Людзей яна ўжо не гадуе,*
*І кожны уцякае ад яе.*

*Гаспадару ў вёсцы так я не адзін,*
*Тут многа нас, старых, так пражывае,*
*Не маглі б мы справіцца адны —*
*Машыны з СКРу памагаюць.*

*На моладзь нашую не можам мы лічыць*
*І чакаць таксама нам яе не трэба,*
*Бо яна ўся вучыцца, кініць,*
*І не хоча з намі тут рабіці хлеба.*

*І на ПГР не можам мы чакаць,*
*Бо яны там і свой клопат маюць,*
*Ўцякае моладзь і ад іх,*
*Старых бацькоў там пакідаюць.*

*Машыны, што у полі там аруць*
*Ці з палёў усё збіраюць,*
*Без людзей рабіць там не могуць*
*І моладзь нашую чакаюць.*

*І што было б, калі б і мы — старыя*
*Узялі ды ў горад пайцякалі?*
*Забракла б ежы ў крамах і для вас,*
*Тады б і вы у горадзе бяду спазналі.*

*Мы многа ўжо на свеце пражылі,*
*Спазналі, што то голад і вайна.*
*Даўно можа б на свеце нас тут не было,*
*Каб не вырятавала нашая зямля.*

*І так на вёсцы жыць я мушу, хоць стары,*
*І хаця школ ніякіх я не маю,*
*Я вас збаўляю ад бяды —*
*Вам хлеб насушны здабываю.*

**М. Матвеюк**




...у спісках прадпрыемстваў з 1879 года ў Міхалове налічвалася 43 прамысловыя фабрыкі: 42 ткальні і 1 фабрыка сукна. Гэтае мястэчка лічылася на прамысловым рынку. На тутэйшых фабрыках працавала 535 рабочых. Найбольш у ткальні Брауэра — 61, Гельскага — 47, Морыца — 37 і Ірганда — 21. Для параўнання, у той самы час у Беластоку было 1568 тэкстыльшчыкаў, у Харошчы — 870, у Супраслі — 854, у Васількове — 139, у Гарадку — 140.







Дарагое Сэрцайка, як цяжка мне цяпер, як сумна адной. Мне толькі 17 год, а ўжо жыццё зусім абрыдла. Пакінуў мяне мой каханы Юрка. Ён у маіх гадах і хадзілі мы ўвесь мінулы школьны год. Я думала, што Юрка прыедзе да мяне на канікулы на вёску, але ўжо пад канец года заўважыла, што нешта не так. Стаў радзей мяне наведваць, а потым і зусім перастаў прыходзіць. Я яго выглядала, на вуліцу выходзіла, а ён не паяўляўся. Відаць, яго сэрца пахаладзела да мяне. Сяброўка гаварыла, што бачыла яго з дзяўчынай, але ўсё ж я не верыла, думала, няпраўда гэта. На канікулах не прыехаў да мяне. А я ўсё не траціла надзеі, спадзявалася, што мо ў новым школьным годзе ўсё наладзіцца. Я ж яму ніякай крыўды не зрабіла. Але не споўніліся мае мары. Наадварот, прапала ўся надзея, бо ўбачыла я яго сама, на ўласныя вочы, як ішоў вечарам, абняўшыся з дзяўчынай. Што перажыла я тады! Хаджу, як непрытомная, не сплю начамі, вучыцца не магу. Усё думкі пра Юрку ў галаве. Сэрцайка, што рабіць мне цяпер?

Расчараваная Галіна

Галіна! Не адна ты такое перажываеш. У вашых гадах каханне гарачае, але не трывалае. Проста Юрку спадабалася іншая дзяўчына. Але не траць надзеі і ты. Пройдзе час, астынуць твае пачуцці да Юркі, і гарантую, што пакахаеш і ты іншага хлопца не менш, як Юрку. А ці апошняе гэта будзе каханне — невядома. Так будзе, пакуль, як кажуць, не трапіш на свайго, табе назначанага.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Мне, дарагі Астроне, прыснілася, быццам я паехала на нейкую экскурсію з класам (я хаджу ў школу). Вось толькі што мы паабедалі і прыселі на поручнях, каб адпачыць. Нечакана я агледзелася і ўбачыла, што ўсе экскурсанты знаходзяцца ў аўтобусе, які ўжо крануўся з месца. Я пачала бегчы і крычаць, каб аўтобус затрымаўся. Дабегла я і ўскочыла. Цяжка было мне знайсці сваё месца ў аўтобусе, які ўжо ехаў, але неяк знайшла яго пры дапамозе сябровак. На маім месцы сядзелі два хлопцы і адна сяброўка. Калі я спытала, куды я маю падзецца, сяброўка абразілася і пайшла сабе. Я села каля тых двух хлопцаў, аднак яны вельмі хутка заснулі і наогул кудысьці зніклі. Нечакана падыходзіць да мяне хлопец, якога я ведаю толькі з віду, і кажа, што праз хвіліну прыйдзе да мяне з канца аўтобуса Андрэй (я не ведаю ніякага Андрэя). А я толькі адказала, што ніякі Андрэй мне не патрэбны. Праз хвіліну аднак падыходзіць той Андрэй. Прывітаўся са мною, сеў побач, і пачалі мы размаўляць. Быў ён вельмі мілы, сказаў, што ўпершыню ўбачыў ён мяне на „стаднёўцы“ (у сапраўднасці „стаднёўка“ мае быць у нас толькі ў гэтым годзе), і ад таго часу не можа ён без мяне жыць. Я спрабавала яму тлумачыць, што гэта, мусіць, нейкая памылка, што я не была на „стаднёўцы“, але ён не звяртаў на гэта ўвагі.

Астроне, а што значыць, калі сніцца, што курыш папяросы, калі ў сапраўднасці чалавек някурачы?

Ірэна Р.

**Ірэна Р.!** Чакае цябе невялікая небяспека або лёгкая хвароба (аб гэтым сведчыць у асноўным тое, што ты курыла). Што датычыць першага твайго сну, ды нават і другога, з ім звязанага, дык навеяны яны рэчаіснасцю, тваім будзённым жыццём або жыццём тваіх сяброў. Тое, што ты не магла спачатку дагнаць аўтобуса, які ад'ехаў без цябе, як і тое, што тваё месца ў аўтобусе было занята, сведчыць таксама аб нейкіх цяжкасцях, якія чакаюць цябе ў бліжэйшай будучыні. Але ўсё будзе, бадай, у парадку. Ірэна Р.! А мо ты занадта прагнеш кахання? Гэтыя думкі пра хлопцаў, пра іх пачуцці да цябе, сведчылі б пра тое, што ты ў самым росквіце і што хочаш мілых слоў, прызнання ў каханні, што проста любіш сімпатычных хлопцаў.

**Астрон**

## § Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Д. жыў з бацькамі на гаспадарцы. Яго брат Ф. жыў у гэтай вёсцы на гаспадарцы сваёй жонкі. Пасля смерці бацькі Д. прадаў 2 га зямлі натарыяльным актам, не пытаючы аб згодзе Ф. У натарыяльным акце пададзеная вартасць дзялянкі — 30 тысяч злотых. У сапраўднасці Д. узяў 50 тысяч. Ці пры падзеле спадчыны да спадчыннай маёмасці ўлічыцца прададзены ўчастак, а калі так, то якой вартасці: 30 ці 50 тысяч?

АДКАЗ: Тое, што Д. прадаў участак, не можа шкодзіць справе Ф. У часе падзелу спадчыннай маёмасці ўчастак павінен быць залічаны да спадчыны і прыдзелены Д. на яго ўдзел. Адносна вартасці яго не мае значэння ані тое, на якую суму ён ацэнены ў натарыяльным акце, ані тое, колькі ў сапраўднасці Д. за яго атрымаў. Цывільны кодэкс устанаўляе, што ацэнка сялянскай нерухомай маёмасці з мэтай вызначэння вартасці долі супольных уласнікаў праводзіцца паводле правіл, якія ўстаноўлены для продажу дзяржаўнай сялянскай нерухомай маёмасці, а гэта залежыць перш за ўсё ад катэгорыі зямлі.




## СУПЕР — ЖАНОЧАЯ

Пасля шумлівай і крыклівай моды ў жаночай вопратцы запанавала мода „супер-жаночая“, як гэта акрэслілі вялікія французскія краўцы. Уся жаночая постаць, бёдры і ногі зноў моцна падкрэслены. Жаночай прывабнасці дадаюць таксама розныя хвальбанкі, рушкі, жабо, вялікія банты, якія носяць замест біжутэрыі, вялікія брошкі, мяккія завязкі пры сукенках і блузках, футравыя шалікі і муфтачкі, а таксама... пер'е фазаноў, якое носяць на будзённых нават шапачках.

Не такая гэта ўжо і новая мода, як здавалася б на першы погляд. Усё гэта ўжо было калісьці, у трыццатых гадах. Ёсць толькі тая розніца, што новыя мадэлі занадта перарысаваны і больш аддалены ад жыцця, ад натуральнасці. Стыль трыццатых гадоў не з'яўляецца, на шчасце, адзіным, які б абавязваў у сёлетнім асенне-зімовым сезоне. Усё ж не кожная жанчына адчувае сябе ідэальна ў хвальбанках, бантах і пер'ях. Большасць старэйшых ці проста поўных жанчын адчувае сябе намнога лепш у спакойнай класічнай вопратцы, якую мы паказваем якраз на сённяшніх здымках. Між іншым, даўно вядомыя сарафаны вярнуліся ізноў да ласкі ў новых журналах мод. У залежнасці ад блузкі, якую мы апранем пад яго, можа ён служыць жанчыне не толькі на штодзень, для работы, але і на візітныя аказіі. Усё залежыць тут ад аздоб і дадаткаў.

Праўду кажучы, цяжка не захапіцца архаічнай прывабнасцю моды трыццатых гадоў, але пакуль што невядома, ці здасць яна поўнасцю экзамен у нашым вельмі ўжо „функцыянальным“ сённяшнім жыцці.

Агульная модная лінія, як вядома з парыжскіх паказаў, прадугледжвае адначасова шырокія, асабліва падкрэсленыя плечы, вузкую талію з поясам. Даўжыня — закрытае калена. У гэту агульную лінію ўмантаваны розныя „архітэктурныя“ формы, якія атрымліваюцца дзякуючы лініям, вытачкам, падкладкам, падушкам. Такім чынам атрымліваецца лінія, якая яшчэ да нядаўна лічылася архаічнай, не дазваляючай свабодна рухацца, так званай модай „для панюсь“. І гэтую моду якраз зусім нядаўна падмянілі вопраткай свабоднай, шырокай і сапраўды функцыянальнай.

Вось што робіць з намі мода. І дзе ж тут кансеквенцыя? У нас саміх. У трапным падборы вопраткі да фігуры, да твару, да характару працы, да адпаведнасці моманту.

Заўсёды памятайце: супер-модная жанчына рэдка бывае супер-элегантная.

**Сяброўка**



## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




**Адна з найбольш загадкавых старонак у гісторыі другой сусветнай вайны звязана з тайнай размешчанага ў Аўстрыйскіх Альпах возера Топліц, на дне якога, паводле сведчання шэрагу відавочцаў, гітлераўцы схавалі фальшывыя фунты стэрлінгаў, залаты запас гестапа, сакрэтныя архівы і дакументы імперскай службы бяспекі. У пасляваенны час пошукі фашысцкага „скарбу“ выліліся ў жорсткую сутычку канкуруючых разведвальных служб заходніх дзяржаў, розных неанацысцкіх груп і авантурыстаў. Хаця многае, аб чым расказваецца ў артыкуле італьянскага журналіста ДАНТЭ ВІРДЖЫЛІ, вядома і не раз апісана, аўтар прыводзіць некаторыя новыя дэталі аперацыі, названыя гітлераўцамі „Бернхарт“.**

У верасні 1956 года ў некаторых кніжных магазінах Аўстрыі сярод новых паступленняў з'явілася кніга „Аперацыя „Бернхарт“. Сама назва мала што гаварыла, але змест кнігі аказаўся сапраўды сенсацыйным. Імя аўтара — Вальтэр Хаген — нікому не вядома. Аднак хутка стала вядома, што пад гэтым псеўданімам хаваўся адзін з самых вопытных супрацоўнікаў нацысцкай контрразведкі Вільгельм Хётль. Ён жыў у невялікім курортным аўстрыйскім мястэчку Бад-Аўсзэе, дзе выкладаў у мясцовай школе.

Групе журналістаў удалося сустрэцца з ім у яго доме. У баварскім касцюме, са старэчымі мяшкамі пад вачыма, даволі тоўсты, гэта быў усё той жа Хётль, знаўца многіх важнейшых сакрэтаў ваенных і прапагандысцкіх служб і арганізацый гітлераўскай Германіі, асабліва таямніц аддзела VI Ф РСХА — галоўнага імперскага ўпраўлення бяспекі. Гэты аддзел займаўся вывучэннем „тэхнічных сродкаў“ — ад мікраперадатчыкаў да прыстасаванняў па „нейтралізацыі“ падслухоўваючых сістэм праціўніка, а таксама распрацоўкай новых шыфраў і дэшыфроўкай сакрэтных пасланняў.

Аперацыя „Бернхарт“, пра якую расказаў у сваёй кнізе Хётль, была даручана аддзелу „тэхнічных сродкаў“. Размова ідзе аб адной з буйнейшых у гісторыі фінансавых махінацый, ажыццёўленай „на карысць“ „трэцяга рэйха“. Аб яе характары гаворыць наступны прыклад.

Гітлераўскай разведцы ўдалося завербаваць турэцкага грамадзяніна, па паходжанню албанца, нейкага Эльяса Базна па мянушцы „Цыцэрон“. Працуючы камердынерам брытанскага пасла ў Анкары ў кастрычніку 1943 года, ён паведаміў немцам важныя звесткі за астранамічную па тым часе суму ў 20 тыс. фунтаў англійскіх стэрлінгаў. Аднак заплачаныя банкноты былі фальшывымі, але зроблены яны былі так па-майстэрску, што нават у Турэцкім банку ніхто не заўважыў махлярства. (У кнізе „Аперацыя „Цыцэрон“, выдадзенай у Лондане ў 1950 годзе і перакладзенай пазней на рускую мову, яе аўтар, былы аташэ нямецкага пасольства ў Турцыі Л. Мойзіш, піша, што Базна атрымаў ад яго трыста тысяч фунтаў стэрлінгаў, большая частка з якіх аказалася фальшывымі. — Рэд.)

Гэтыя фунты, як і мільёны іншых, што выкарыстоўваліся ў аналагічных выпадках, — вынік аперацыі „Бернхард“, пра якую шырокая публіка так ніколі нічога і не даведалася б, калі б не з'яўленне кнігі Хётля.

### ЗАГАДКАВАЯ ГІБЕЛЬ НЕПАЖАДАНЫХ СВЕДКАЎ

Непадалёк ад Бад-Аўсзэе, дзе жыве Хётль, знаходзіцца акружанае гарамі невялікае, але вельмі прыгожае возера Топліц. Гэта сапраўдная жамчужына Зальцкамергута, аднаго з самых прыгожых горных раёнаў Аўстрыі. Да возера сярод елак і соснаў вядзе зручная дарожка. Усюды відаць указальнікі „Да возера Топліц“. Гледзячы на гэта цудоўнае стварэнне прыроды, з цяжкасцю прымушаеш сябе вярнуцца да думкі аб тых змрочных таямніцах, якія яно захоўвае.

Адна з гэтых таямніц — гібель інжынераў Маера і Піхлера з Лінца. Іх трупы былі знойдзены ў сакавіку 1946 года на схіле гары непадалёк ад возера. У ходзе следства ўстаноўлена, што ў час вайны абодва яны працавалі на размешчанай каля возера „метэаралагічнай станцыі“.

10 жніўня 1950 года адбылася яшчэ адна таямнічая падзея. Жыхар Гамбурга доктар Герэнс зваліўся са 100-метровай вышыні паўднёвага схіла гары Рэйхенштэйн, якая ўзвышаецца над возерам Топліц. На першы погляд, гэта няшчасны выпадак у гарах, але ў сапраўднасці ўсё было зусім інакш. Герэнс таксама ў свой час працаваў на „метэастанцыі“. У час узыходжання яго суправаджаў нехта Келер, які пасля „няшчаснага выпадку“ знік у невядомым напрамку. Як устаноўлена, Келер таксама быў супрацоўнікам „метэастанцыі“.

(Працяг будзе)

